Пераклад Васіля Раманава 2014 год.

## Мітрафан Доўнар-Запольскі

# “Гапон”

Аповесць у вершах на беларускай мове В. Дуніна-Марцінкевіча.
(З гісторыі беларускай пісьмовасьці[1])

## I.

Час да 60-тых гадоў цяперашняга стагоддзя[2], г. азн. да апошняй польска-рускай вайны, адзначыўся ў польскай літаратуры вялікім ажыўленнем у вывучэнні мясцовых этнаграфічных элементаў тэрыторый, уваходзіўшых некалі ў склад Польскай дзяржавы. Амаль з пачатку нашага стагоддзя ў гэтай літаратуры пачалі з’яўляцца досьледы аб Маларосіі, Беларусі і Ліцве; гэтыя вобласьці вывучаліся з гістарычнага, этнаграфічнага і эканамічнага боку. Такому напрамку не мала садзейнічаў Віленскі Ўніверсітэт, зачынены пасьля польскага паўстання 30-ых гадоў; у ім сабраліся лепшыя прадстаўнікі польскай навукі таго перыяду, у ім былі лепшыя польскія прафэсары, із яго выйшла шмат вядомых навукоўцаў. Канешне, навука з тых пор пайла на шмат далей, але, аднак, да шмат якіх прац таго часу, вывучаючым старыну Заходне-Рускага краю прыходзіцца звяртацца і цяпер: такія, напрыклад, працы Ярашэвіча, Норбута, Тышкевіча і інш. Уплыў Віленскага Ўніверсітэту прадаўжаўся і пасьля яго закрыцця да падзей 1863 года, калі пачаў моцна павялічвацца вялікарускі ўплыў.

Літаратурны і навуковы рух таго часу, пачаўшыся на Беларусі і ў Ліцве, у сваёй аснове быў чыста мясцовы рух; яго кіраўнікамі былі туземныя ўраджэнцы, шанаваўшыя мясцовыя інтарэсы, з павагай накіроўваўшыя свае інтылектуальныя магчымасьці на вывучэнне мясцовага жыцця ў яго прошлым і сучасным. Згодна з існуючым тады становішчам, гэтае навуковае ажыўленне ішло із Польшчы і таму літаратуру згаданага напрамку да гэтых пор лічаць польскай. Аднак гэта не зусім правільна, так як яе можна прызнаць польскай хіба што толькі па мове, на якой напісана большая яе частка, але па свайму напрамку яе трэба правільней прызнаць беларуска-літоўскай.

“Палітычнае здарэнне, - кажа Бяссонаў, - некалі аб’яднаўшае іх суровай сілай і імем Літвы, адазвалась зноў: усе сталі прынімаць назву Літвы, літоўцаў,

1 ) Поўны загаловак гэтай повесьці наступны: “Hapon, powieśc białoruska, z prawdziwego zdarzenia, w języku białoruskiego ludu napisana. Przez Wincentego Duninin-Marcinkiewicza. Minsk, 1855 r.” Гэты артыкул надрукаваны у “Календаръ Сѣверо-Западного Края” за 1888 г.

2) Маецца на ўвазе XIX стагоддзе.

літоўскага і пад гэтай назвай дзейнічаць, па магчымасці разам, не заўсёды да адной, але да некалькіх падобных мэт. Недастаткова было б нам, па звычаю іншых, бачыць і тут  хітрае прыкрыванне польшчызны, ці прапаноўваць заціраць усё рускае : не дзіўна, калі паляк, не маючы магчымасьці жыць у сваёй якасьці, пераувабляўся ў літоўца, а Русь пераапраналась Літвой, каб адрозніць сябе ад вядомага русізму; у такой форме палякі ўсётакі давалі адпор польскай выключнасьці, як некалі рабіла Літоўскае Княства, а Русь усётакі выводзілась на падмосткі, хоць і пад зборным, некалі палітычным, цяпер жа народным імем Літвы. Гэта была проста шукаемая формула хоць якога нібудзь замірэння (Беларускія песьні)”. Па поглядах, якія тады займалі дамінуючае становішча ў польскай літаратуры і грамадстве, і падтрымліваемымі рускім жа ўрадам, Беларусь не адрознівалась ад Літвы: і тая і другая лічыліся часткамі Польшчы; беларуская мова, часьцей зваўшаяся старажытным імем “крывіцкая”, лічылася помессю польскай і вялікарускай.

Якімі ні цьмянымі былі разуменні шматлікіх тагачасных навукоўцаў аб этнаграфічным і гістарычным адрозненні Літвы і Беларусі ад карэннай Польшчы, аднак яны бычылі адрозненне інтарэсаў гэтых народаў, добра ўсьведамлялі свае мясцовыя інтарэсы таго племені, сярод якога яны нарадзіліся і падраслі; яны імкнуліся прыйсці на дапамогу гэтаму мясцоваму элементу, зменшыць пакуты простага народу. Г. Пыпін малюе такое становішча наступнымі, годнымі заўвагі словамі: (стр. 295-6 “Вѣст. Евр.”, 1887 г. чэрвень).

“Нельга было не бачыць, што ў заходнім краі гэтыя массы ў вельмі пераважнай бальшыні былі адрозныя ад польскай нацыянальнасьці – рускія і літоўскія; але па старой памяці нікому не прыходзіла ў галаву думка, што гэтыя массы, пры якім-небудзь далейшым развіцці, маглі знайсці іншыя сродкі асветы, акрамя польскіх, і маглі пайсьці па іншаму нарамку развіцця, акрамя польскага. Побач з гэтым была – часта гарачая – любоў да сваёй мясцовай радзімы, да яе гістарычных і пабытовых асаблівасьцей, да народнага звычаю, вядомаму з дзяцінства і ў панскім асяродзі; у гэтым асяроддзі не чужой была і народная (у дадзеным выпадку беларуская) мова, да якой прызвычаіліся ад нянек, хатняй прыслугі і сельскагаспадарчых працаўнікоў: шмат хто із панства, самі беларусы, здаецца, да дастаткова позняга часу не былі канчаткова паланізаваны, і беларуская мова часткова трымалася і ў гэтым асяроддзі, як родная; у дробнай “засцянковай”, “аколічнай” шляхты – тым больш. Народна-рамантычны напрамак літаратуры супадаў з памяццю беларускасьці і з прыхільнасьцю да яе ў самым жыцці, - і ў мясцовым патрыятызме адбылося досыць дзіўнае спалучэнне вельмі разнародных элементаў: гэты патрыятызм быў “беларускі”, але сутнасць яго была польская. Яна была беларускай па любові да тэрытарыяльнай радзімы і яе пейзажных і пабытовых абставін, але ўсё жыццё беларускага народу разумелась з чыста польскага боку гледжання: гэты народ меў толькі другасную, службовую ролю; яго пабытовы змест, яго паэзія не маглі чакаць якога-небудзь самастойнага развіцця і павінны былі толькі ўзбагаччаць польскую літаратуру і паэзію, як сам народ павінен быў сілаваць польскую нацыянальнасць, часткай якой ён і лічыўся.”

Дзякуючы паказаным вышэй прычынам у асяродку тагачаснай мясцовай беларускай інтэлігенцыі з’явілася шмат збіральнікаў помнікаў народнай творчасьці, якімі былі: Зянькевіч, Сыракомля, Чачот, Дунін-Марцінкевіч, Манькоўскі і шмат іншых. Тады ж, у шмат каго нарадзілася думка аб магчымасьці стварэння штучнай беларускай літаратуры, прадстаўнікамі якой былі Ян Чачот, Дунін-Марцінкевіч, Манькоўскі і шмат інш. Акрамя літаратурнай цікавасьці гэтыя працы маюць чыста этнаграфічнае значэнне, так як іх аўтары мелі вельмі глыбокія веды беларускага народа, яго мовы, звычаяў, хатняга становішча і інш. З гэтага боку астаткі беларускай літаратуры маюць глыбокі інтарэс. Пры гэтым у цяперашні час гэтыя творы вельмі рэдкія. З адным із такіх твораў “Гапон”, належачых пяру Вікенція Дуніна-Марцінкевіча[3], мы і думаем пазнаёміць чытача.

## II.

Зместам повесці з’яўлецца лёс яе героя Гапона, па паходжанню селяніна, які, трапіўшы ў жаўнеры, дзяуючы козням эканома сваёй панны, закаханага ў нявесту Гапона, даслужваецца да афіцэрскага чыну і адружваецца з даўно каханай ім прыгоннай той жа панны – Кацярыне. Повесць складаецца із 4 песень, із якіх кожная малюе розныя моманты жыцця героя.

**У першай песьні** аўтар малюе жывымі фарбамі вяселле беларускіх сялян; гэта - адно із лепшых месцаў повесьці па жвавасьці і праўдзівасьці адлюстравання жыццёвых абставін, а роўным чынам і па выкладанню. Перад чытачом, хоць трохі знаёмым з нашай вёскай, малюецца вельмі праўдзівая карціна вяселля, калі селянін, натаміўшысь ад цяжкай працы, спяшаецца у карчму, каб там, пад уздзеяннем гарэлкі і ліхіх скокаў, суправаджаемых спяваннем, адпачыць на свабодзе, забыўшысь хоць на некалькі гадзін.

Шум, крык, гоман у карчме.
Кіпіць вясковая дружына,
Піва, мёд, гарэлку п’е,
Ажна курыцца чупрына.

Гаспадары за сталам
Громка гутарку вядуць,
А ляндарка з ляндаром[4]
Мёд, гарэлку раздаюць.

Хлопцы, дзўкі, маладзіцы
Ля парога гаманяць,
А старыя чараўніцы

---

3) Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся у 1807 годзе ў Менскай губ. Бабруйскім уездзе, у фальварку Панюшкевічы і памёр у сакавіку 1885 году. Калі друкаваўся гэты артыкул у 1888 г., то маскоўская цэнзура выкінула із яе біяграфію Марцінкевіча і яго партрэт. На жаль, я не магу зараз аднавіць ні таго, ні другога.

4) Ляндар, аліндар - карчмар

Цішком ля печы сядзяць.

Ананя на скрыпцы грае
Лявоніху, то бычка,
Гапон жару паддавае:
“Зайграй – крычыць – казачка!”

Аж юкнула Кацярынка,
Так задаў ёй кулаком,
“Хадзі, мая ты малінка!”
Дый затупаў хадаром.

“Анання рэж вясёлы!”
Крычыць громка наш Гапон,
Дый забраўшы ў свіце полы,
Мэрам[5] хохлік! Мэрам ён!

То ў прысядкі выкідае,
Ажна стогне пад ім пол
То галубца[6] падбівае,
Ажна трасецца хахол.

“Ах! Ух! Давай жару,
Давай болей, давай пару!” -
Крычыць Гапон, ды й гуляе,
Пад скрыпачку падпявае.

“Эй, чух, Кацярынка!
Чабоцікі красны;
Каму блішчаць, каго любяць
Твае вочкі ясны?”
“Эй, чух, Кацярынка!
Твае кудры ўюцца,
Скачаш, пляшаш, мая міла,
Аж шчочкі трасуцца”.

Тройчы Гапон прамахнуў,
Бразчаць ножны[7] з агнівом,
Стаў на месцы - падпрыгнуў
Дый затупаў хадаром.

---

5) Мэрам - быццам
6) Галубец – прытупванне падчас скокаў.
7) Ножны – Металічныя пласьціны ў якія заціскалася лучына.

Кацярынка ж успляснула,
На міленькага зірнула,
Хвіць! Спаднічку распусьціла,
Тройчы запяткам падбіла,
Дробны ножкі выкідае,
Чаравічкі скрыпяць,
А із вочак аж сіяе,
Быццам іскаркі ляцяць.

Русы коскі падлятаюць,
Каснікі як жар гараць;
А вось вышэй як зайграюць,
Дык і возьме падпяваць:

“Мілы Хартон, мілы Саўка,
Ды мілейшы ж мой Гапон,
Хахол ясны, пояс красны,
А галосак! Кабы звон.
Не хочу Саўкі, Хартона, -
Мне жыцця з імі не быць
Валей[8] маяго Гапона,
З ім не буду я тужыць!”

Пяе, пляша, падбівае,
Усяк вокам за ёй бродзіць,
Як ластаўка падплывае,
Аж на хочацца глядзець.

Ананя – воўча юха!
То ўжо нечага маніць!
Ярка рэжа із завуха,
Аж скрыпка яго звініць.

Мяцеліцу прабірае,
Ёмка, громка, ладны час!
Дробна шмыкам падсякае,
Звініць рымка – гудзе бас,

Локаць ё ўпёршы ў бруха,
Ля кабылкі нос дзяржаў,
Далей сціхнуў – дый з завуха

8) Валей – лепш, больш пажадана.

На Лявоніху падняў.

Схапіў Гапон Кацярынку,
Сьмела к сэрцу прытуліў,
Абняўшы рукой за спінку,
Лявоніху ўспрыхнуў.

Угрунь за ім маладзіцы,
Дзеўкі, хлопцы, хто як змог,
Дрыжаць чупрыны і спадніцы,
Суматоха – што крый Бог!

Ад пылу аж пацямнела,
Хохат, лопат, шум ды крыкі
Як у гарку закіпела,
Як на быдла напаў зык.

Той у прысядкі, той выкідкі,
Чупрыны, як іцец дрыжаць,
Тая бокам , тая скокам,
Ды так возьмуць прыпяваць:
”Ах, калі ж у матульці была,
Як вішанка ў садочку цвіла,
Папалася злому духу, мужыку,
Ён высушыў, як ліпінку ў духу.
Наехала повен двор татараў,
Ды ўзялі ж майго мужа ў палон,
Не шкада ж мне, што ўзялі,
Толькі шкода, што не крэпка звязалі;
Ён паганец уцячэ, уцячэ
Мне галоўку натаўчэ, натаўчэ.
Трэба ж будзе сцерагчыся, уцякаць,
З вераб’ямі пад страхою начаваць”.

Далей крыкнула Таццяна,
Абняўшы за шыю Янку:
“Пайшоў Янка ў грыбы,
Таццяна ў апенькі;
Спаткаліся, абняліся,
Як дзеткі маленькія”.

А за ёю Халімон,
Гудзе, як царкоўны звон:
“Ой, Божа ж мой, Божа!

Нашто я нарадзіўся;
Састарэўся як сабака
Дасюль не жаніўся”.

Перастаў – Ганка спляснула,
Ды й тоненька зацягнула:
“На вуліцы курта брэша.
А да мяне мілы чэша,
Ды не дарам курта брэша”.

Вось так пляшуць, прыпяваюць,
Хохат, лопат, крык і зык,
Аж пад пыл падлятаюць,
А як рэзаў – рэжа смык!

Аднак гулянне на гэты раз скончылася для моладзі не вельмі добра: эканом з войтам з’явіліся ў самы разгар гуляння, яны прыйшлі выбраць із моладзі рэкрутаў. Усе кінуліся хто куды мог, адзін толькі Гапон “схапіўся за кол” і пачаў абараняцца. Доўга з ім не маглі справіцца, але нарэшце эканом здагадаўся: ён закідаў яго кажухамі, падушкамі і інш., так што Гапону нельга было павярнуцца; яго звязалі, закавалі ў калодкі і здалі ў жаўнеры.

**У другой песьні** аўтар знаёміць чытача з героем і гераіняй сваёй аповесьці: Гапонам і Кацярынай:

У вялікім у сяле
Над Дняпроўскай стараною,
На прыгорку ў вугле,
Паміж лесам і ракою,
Там стаялі дзве хаціны, -
Усціны, а друга Гарпіны.
Першай муж быў Мірон:
Невесь за грахі якія,
Не дажыў з сына пацехі,
А той сын – быў наш Гапон.

Ён  - няма чаго казаць!
Горды, смелы, - зух дзяціна!
За сваіх умеў стаяць,
А прыгожы як маліна,
Ды і пісьменны ж быў ён:
На яго ж з усіх бакоў
Дзеўкі моўчкі пазіралі,
На ігрышчах прысядалі;
А Гапон ані глядзіць,
Ён пры суджанай дзяўчыне,
Наймілейшай Кацярыне,

Як прысядзе – дык сядзіць.

Ва ўдавы ж Агрыпіны,
Апроч дочкі Кацярыны,
Болей не было сваіх;
Яна з Усцінаю кумою
Жыла як рука з рукою.
Адна дума была ў іх,
Каб сваіх дзетак засватаць,
Каб худобку ім прыпратаць,
Што б як сядуць на сваім,
Яны весела зажылі;
Без патрэбы не тужылі;
Не рупелі ні аб чым.

У Грыпіны ж Кацярына,
Крые Божа! Бяды не знала,
Як у садочку маліна,
Расла, цвіла, даспявала:
На шчочках кроў з малаком
А вочкі блішчаць агнём,
І сямнаццаць ужо лет,
Як прыйшла яна на сьвет.

Як з сабой кумы сыйдуцца,
Тут жа зараз згадкі пачнуцца,
Пара, бач, дзяцей жаніць;
Яно ўсякі тут адклад,
Не вельмі ідзе на лад;
Пойдзем пані чалом біць:
А там – на ўсё Божа воля!
Як прыбярэм усё з поля,
Дзетак да вянца павядзем.
Гэтак старыя гаманілі,
І напэўна ўлажылі,
Ды памяшаў Эканом.

Далей расказваеца дастаткова звычайная гісторыя часоў прыгону:

Ён – бач ты, сабачы сыну,
Упадобаў Кацярыну,
Ды ну ж к беднай прысядаць;
То ластаўкай падплывае,
Красны слоўцы выпускае,
Каб як-небудзь яе ўняць.

А Кацярына нябога!
“Бойся – кажа – паніч Бога!!
Гэта ж грэх така напасць;
Як пажалюся Гапону,
Ён пэўна такога гону
Панічу цішком задасць,
Што зубоў не пазбіраеш
І ахвоту пацяраеш
Чужых нявестак кмуліць”.

Эканом Гапона забаяўся,
На час адстаў, ды закляўся
Маладых ён пагубіць.

Прыведзеная характарыстыка героя і гераіні повесьці не адрозніваецца, як відаць, паэтычнымі дасягненнямі; у мастацкім сэнсе яна дастаткова слабая, але затое адпавядае рэчаіснасьці: яна складзена ў народным стылі, адпавядае яго разуменням прыгажосьці і зухаватасьці. Далей аўтар паказвае, як эканому ўдалося адпомсціць Гапону, як саперніку, і Кацярыне за нанесеную яму крыўду. Ад карчмара Іцкі эканом даведваецца, што Гапон збіраецца пасылаць сватоў да Кацярыны без папярэдняй згоды пані і, акрамя таго, што Гапон, даведаўшысь аб тым, што хутка будуць набіраць рэкрутаў, бунтуе вясковую моладзь. Гэтыя звесткі даюць эканому выпадак паздеквацца з Гапона і ў той жа час прымусіць пані здаць яго ў жаўнеры, не чакаючы набору. Расправа эканома з падуладным яму селянінам – справа дастоткова звычайная ў тыя часы, апісана аўтарам з усёй рэзкасцю, характэрызуючай ты адносіны. Эканом заве да сябе Гапона і не чакаючага, верагодна, бяды:

Рыжы вусы Эканома
Шчэццю ўверх падняліся;
Зіркнуў скоса на Гапона,
Вочы кроўю заліліся,
Губы страшна пакрывіў.
Кнут у жмені аж трашчыць:
Як к Гапону падступіў,
Так і ўзяў яго сучыць:

“Як ты можаш, воўча вуха!
Без двару ў сваты слаць?”
І брызнула аплявуха,
Што Гапон ледзь змог устаяць.

“Вось цябе я, уражы сыну!
Як адвешу сотні дзве,
То забудзеш Кацярыну,
Ды забудзеш і сам дзе”.

Гапон на бок пахіснуўся,
Твар далоняю закрыў,
Ён навокал азірнуўся,
Ды за тоўкач ухапіў.

"Каб я бога не баяўся,
Паказаў бы я табе!!
Чаго ты тут прыскяпаўся:
Думаеш баюсь цябе?
Пані за тое не сярдуе,
Што шлюць сваты без двара,
А дазваляе адружыцца,
Як каму на то пара:
А ты! – мовіць – ваўкалака
Здзекваешся тут над намі;
Сьцеражыся ж ты сабака!
Памятай і мы з зубамі!"

Эканом пачуўшы гэта,
Да стадолы ўраз падбег,
Гапон скончыць не паспеў,
Як з карчмы ён цягу даў.

Як і трэба было чакаць, эканом на гэтым не спыніўся: ён ідзе да пані, пераконвае яе, што Гапон заводзіць моладзь, падгаворваючы яе пайсьці ў лес, каб пазбегнуць рэкруцкага набору; як выратаванне ён прапануе здаць завадатара зараз жа. Пані, напужаная ім, на ўсё згаджаецца і Гапона, як мы ўжо бачылі ў першай песьні, здаюць у рэкруты. Кацярына не была пакінута эканомам у спакоі: ён выкарыстоўвае ўсе сродкі, каб згубіць дзяўчыну:

Эканом пры беднай скача,
Вось налёг яе згубіць…
То прыкінецца ён лісам,
То са злосьці страшным бесам,
Каб як-небудзь яе змоч.

Каб мець больш магчымасьцей падзейнічаць на сваю ахвяру, ён дае ёй працу ў пральні пры двары, адрываючы, такім чынам, аб любімай маці. Аднак выпадак даў ёй магчымасць пазбавіцца ад праследу эканома і ў той жа час згубіць апошняга. Служачы пры двары, яна аднойчы у садзе "у цёмным у кусточку" пралівала горкія слёзы, успамінаючы аб сумнай долі каханага Гапона. У гэты момант яе заўважае пані, распытвае ў чым справа і даведваецца ўсю праўду. Абураюшысь учынкам свайго служачага, яна зараз жа прагнала эканома са свайго фальварку, а Кацярына:

Як пакаёвая дзяўчына,
Пры пані пачала служыць;

Пані яе палюбіла,
Чытаць, пісаць навучыла.
На ксенжцы Бога хваліць.

Гэтым заканчваецца другая песьня.

**Змест трэццяй** – рэкруцкі набор у Магілёве, на якім сам эканом трапляе ў жаўнеры. Гэтая частка повесьці, не адрозніваецца мастацкімі годнасьцямі, тым не менш, вельмі цікавая, так як змяшчае ў сабе вельмі шмат чыста народных выразаў.

У горадзе Магілёве,
Пры шырокім пры Дняпры,
Гудзіць як бы шэршні ў дрэве,
Кіпіць як бы ў катле.

Там вуліцаю пан гоніць,
Каляска стралой ляціць,
Пад каньмі аж зямля стогне,
А хварысь, падзі, крычыць!

Тут сустрэнеш калымажку,
Вось конікі! Глядзь! Кругом
Гладкі – ляцяць у размашку;
Гэта, пэўна, Эканом.

Далей хтось там на драбіне,
Конік быццам рак паўзе,
Згадаеш па кіслай міне,
Што пацесара вязе.

А там фурманак багата,
Бы грыбоў у бару;
Глядзіш! – то нашага брата
Вязуць на службу Цару.

Каб галодныя сабакі,
Так жыдоўскі лапсярдакі
Лезуць к табе як сабакі;
Пападзіцесь жа ім ў когці,
Наўрад патрафіш іх змогці,
Вытрубушаць карман твой.

Вось і каменны палаты,
Сходзяцца паны багаты,
Золата на іх кіпіць:
Мужыкоў туды ж прыводзяць,

І аднадворцы прыходзяць,
Там на службу маюць брыць.

На сярэдзіне святліцы
Стаіць стол накрыт сукном,
Пры ім, з крыжам у пятліцы,
Падпёршыся кулаком,
Ясны маршалак сядзіць;
Ён, маўляў, рабін у школе,
Ці як фурман у стадоле,
Важна так на ўсіх глядзіць!

Направа пан вельмі строгі,
Вусы як у быка рогі,
Вось так старчмаю стаяць;
Валасы яго сівенькі;
Мундзір на ім галубенькі,
На грудзях крыжы блішчаць.

А за ім якісь пузаты,
Быццам мядзведзь такі касматы, -
Гэта дохтар, мае быць;
Рукі за сабой трымае,
Пальцамі перабірае,
Ды ўвесь час ў карман глядзіць.

З левай стараны Маршалка,
Тоненькі, прасты як палка,
На розум, відаць, хіцёр!
Ён з падлоб’я паглядае,
У рутцэ пяро трымае:
Гэта, кажуць, пракурор.

На канцы якісь вайсковы,
Смуглы, відны і здаровы,
Прыгажэнькі кавалер!
Часта ён на стойку вокам
Меціць у рздуме глыбокім;
То прыёмны афіцэр.

Вось з крэсла маршалак схапіўся,
Усім у пояс пакланіўся,
Табакеркай заскрыпеў;
Далей крыкнуў на дазорцу;

“Няхай пачнуць аднадворцы!”
Дый зноў на месца прысеў.

Тут, ля бакавой святліцы,
Раздоўся жалобны стон,
І найпершы паказаўся
Наш знаёмы Эканом.

Як прыйшла шляхце трывога,
Каб паперы ўсяк складаў,
Эканам, з дазволу Бога,
У аднадворцы папаў.

І вось, маўляў, не ўрокам
Кажучы, пагана чэсць!
Трэба ж быццам бы нарокам
На чаргу яму ўлезць.

Як вала вядуць на бойню,
Так Эканома пад стойку,
Ён жа не пацягне і ног;
Ды скорчыўся ў клубочак,
З доктара не зводзіць вочак,
І так согне, што крый, Бог!

Доктар важна прыступае,
І некрута аглядае,
Зубы, ногі, бокі, стаць;
Пакуль каля яго тупаў,
Пакуль кругом не ашчупаў,
Вось, маўляў, каня цыган.

Відаць з сабой яны зналісь,
Пярвей, відаць, сустракалісь;
Доктар, бач, ганьбу знайшоў.
Кажа, - “У службу не гадзіцца,
Яму трэба падлячыцца,
Ды і меры не дайшоў”.

А некрут: “Мае ж вы паночкі,
Вя ясныя сакалочкі!
Дзе тут хвараму служыць,
Вось так коле мне ў грудзі
Што сухоты кажуць людзі,

І ў баку вельмі баліць”.

Як хто варам абліў плечы,
Як пачуў такія рэчы,
Малады наш афіцэр,
Ён з месца свайго ўсхапіўся,
Пры некруце апынуўся,
Глядзіць быццам ліхі звер.
Пад стойкай яго прастуе,
Струной сягне, ды мацуе,
А ў бараду кулаком
Як парадкам яму суне,
Глядзі! Вось зусім ачуне
Наш няшчасны Эканом.

“Нашто людзей – кажа – зводзіць.
Ён меру нават праходзіць.
Я бяру на свой адказ;
Яка тут к чорту хвароба?
Здаць! А пасьля будзе проба.
Возьмем яго ў лазарэт.”

Доктар кішэню пачухаў,
Маршалак табачку панюхаў,
Некрут жаласна запеў;
Сударага на Эканома
Напала; пазнаў Гапона,
Дый са страху абамлеў.

На гэтым заканчваецца трэццяя песьня.

Зместам **чацвёртай песьні** служыць вяселле Гапона. Пакуль апошні служыў у войску, Кацярына жыла ў пані пры двары, у якасьці яе “пакаёвай”:

Цяпер нашу Кацярыну,
Тую сельскую дзяўчыну,
Хто сустрэне – не пазнае:
Панскую гаворку мае
І сукеначку надзела,
Быццам бы паненка –маўляў!

Але яна не змянілася і ў душы засталася вернай свайму Гапону, часта сумавала па яму:

“Дзе ж Гапонка наш дзяецца,
Як беднаму там вядзецца?”

Так часьцяком гаварыла яна сваёй старэнькай маці. Аднойчы, сьпяваючы за працай са сваёй гаспадыняй “святыя песьні”, яны даведалісь, што да гаспадарчага двару прыехаў нейкі афіцэр. Калі ў пакой зайшоў

Прыгожанькі афіцэр;
Красны, відны і здаровы,
Золатам блішчыць мундзір,

у ім Кацярына адразу пазнала свайго каханага. Апошні, упаўшы перад былой сваёй пані на калені, прасіў выдаць за яго Кацярыну; яго прашэнне было, вядома, задаволена і хутка пачаліся вясельныя прыгатаванні. Апісанне вяселля ў аўтара цалкам адпавядае народным звычаям беларускіх сялян; яно не пазбаўлена жывасьці і цікавасьці. Мы паказваем яго тут цалкам:

Вось у ўдавы Агрыпіны,
Гаспадароў повен двор,
А на перадзе дружыны
Стаіць важна сват Хвядор;
У руках з гарэлкай пляшка,
А чарка тоўста нібы вол,
Міргнуў! – і Маланя сваха
Абрусом накрыла стол.
Ён чарку з пляшкаю паставіў,
Рознай закусі дабавіў.
Дый з галавы шапку зняў;
Агрыпіне пакланіўся,
Водкі за яе напіўся,
І такую рэч пачаў.

“Няхай будзе Езус Хрыстос пахвалёны!
Для спасення грэшных з Марыі жонкі.
Не прыйшлі мы чарадой ад сябе,
Ды прыслаў нас Гапон да цябе.
Ёсць у цябе Кацярына дочка,
Яна ў маці, як правае вочка;
Ды і Гапон наш малады,
Ён Цару верна служыў,
Чыноў, пачасьцей нажыў,
Вось дзяціна – хоць куды!
Б’ем мы ўсе чалом Вашэці!
Зазаві яе із клеці,
Няхай з намі пагуляе,
Дый гарэлкі паспытае”.

Тут дзяўчаты, маладзіцы,
Кацярыну із святліцы
Чэсна пад ручкі вядуць,
І такія песьні пяюць:

“Гэта ж табе, Хфёдарка,

Увядзенка Кацярынка,
Калі яе любіш, дай пірог,
Калі не любіш – дык вон за парог!
Не хваліся, што ў нас быў,
Што нашай Кацярыны не злюбіў.”

Хведар маладую сустракае,
Поўнай чаркай прапівае,
Пірог, сыр кладзе на стол;
Гарэлка ў міскі льецца,
Рублявік на дно кладзецца
Разгуляўся сват вясёлы.

А дзеўкі водку забралі,
Закускі, пірог і сыр,
У іспотку паўцякалі,
Галосячы на ўвесь мір;
Уздаволь там пілі, елі
І такія песьні пелі:

“Мовіла бочачка ў піўніцы стоячы,
Калі мяне не вып’еце,
Сама выкачуся,
На двары разальюся,
Ракой ды крыніцаю,
Студзёнаю вадзіцаю.”
Мовіла Кацярына ў маці седзячы:
“Калі мяне не выдасі,
То я сама пайду;
Па двары памаленьку пабрыду,
За варотамі угрунь пабягу”.

Тут яны ў позню ночку,
Аж да яснага святочку
Пілі, елі, ды й гулялі,
Запоіны праважалі.

А ў суботу вечарочкам,
За Грыпініным сталом,
Сядзела такая дружына:
На пачэсным на куце,
Важна гаворку вядзе
Перша сваха Акуліна

Дружкі ўправа каля свахі,
Дзве прыгожы маладзіцы, -
То Гапонавы сястрыцы,
Хоць і маці не адной.

Улева намеснік сядзіць,
Жадна на пляшку глядзіць.
Далей сустрэнеш Гапона,
Дружак Янку і Мірона,
На канцы ж хросны Даніла, -
То маладога вазіла.
А сват Хведар, то і справа,
Гарэлку ўсцяж падлівае,
Новыя закускі выстаўляе:
Пірагі, сыр, што прыспела!

Тут чытыры маладзіцы,
Цягнуць дзежку са святліцы,
На крыжа яе стаўляюць,
Белы каравай расчыняюць;
Сваха муку ім прыносіць,
Ды й благаславення просіць:

“Ёсць тут Бог ды татка,
Родзічы і суседзі блізкія і  далёкія,
Мужы сустрэчныя, бабы запечныя,
Дзеткі заплечныя,
Благаславіце краснай панне каравай учыніць!”

Каравайкі ж пры рабоце
Спяваюць у добрай ахвоце:

“Благаславіце людзі!
Блізкія суседзі,
Гэтаму дзіцяці каравай замясіць.”
Ручкамі беленькімі,
Пярсцёнкамі залаценькімі,
Песьнямі вясяленькімі.
“Ты ступі, Божа, з неба,
Як нам цяпер трэба,
Памагаў расчыніць,
Памагай замясіць.
Не стой, Божа, за дзвярамі,
Ды ідзі, Божа, ў хату,

Ды сядзь, Божа, на куце,
Ды дай долю маладым!"

"Я у хату не пайду,
Я за дзвярамі пастаю,
Маладым долю перашлю."
"Збірайся родзе!
Ды к беленькаму караваю,
Стары бабы для парадку,
Маладыя маладзіцы песьні пець,
Удалыя малайцы каравай печ."

Ды каб усё расказаці,
Які парадак у хаці,
Як змовіны адбывалі,
Ды каравай адпякалі.
Як хлопцы, дзеўкі скакалі
Лявоніху, то бычка,
Мяцеліцу, казачка,
Як маладую садзілі
На пасад – казка такая
Што не стала б языка.

Вось прыйшла нядзелька красна,
Засьвяціла зорка ясна,
Гапон наш мундзір надзеў;
Шчыра ўздыхнуў да Бога!
Сеў на каня варанога,
Ды к маладой паляцеў.

А дружкі Янка з Міронам
Верхам сядзяць за Гапонам:
Следам хлопцаў грамада
Ляцяць – песьні запяваюць,
Вецер світкі паднімае,
Ну! Прыгожа чарада!

На канцы вазком Даніла
Гудзе! – колькі мае сілы,
Канём музыку вязе.
Ананя ж падпявае,
Ёмка смыкам падсякае,
Не заўважыў, што трасе.

Як заехала дружына;
З хаты выйшла Агрыпіна,
Надзеўшы кажух наўзніч;
Чарку Гапону падносіць,
У святліцу зайсці просіць,
І рэч заводзіць так:

“Зяценька!
П’ю за цябе поўным кубкам,
Добрым здароўем,
Што жадаю сабе,
Тое і табе”.

Гапон чарку бярэ ў рукі,
Двойчы выліў за сябе,
А трэцці раз для вырукі
Белы рублявік кладзе.
Грыпіна чарку прыймае,
У святліцу запрашае.
Дзеўкі ж карагодам ходзяць,
Жалобныя песьні заводзяць:

“Хто ў полі пацiху гукае?
Там Кацярына свайго татку шукае,
Хоць шукае, не знойдзе.
Ой, далёка яе татачка далёка,
У сырой зямлі, у жоўтым пяску глыбока:
Ды зрабілі добрыя людзі вечны дом,
Без дзвярэй, без вакон, без сонца.
Не прамоўлю дзіцятка ні слоўца.”

Тут настала частаванне,
Ды й падаркаў раздаванне,
Сотню паясоў, маўляў!
Свата ручніком звязалі,
Баклагу ў руку ўклалі,
Каб гарэлкі больш дастаў.

Лубку з сітам падстаўляюць,
Маладу на ёй сажаюць,
Як каралеўну на ўрад,
Яна ж усцяж галосіць,
Кругом паклоны разносіць,
Дый зноў сядзе на пасад.

Дзеўкі ж, хлопцы пьюць, гуляюць
Пад скрыпачку падпяваюць:

“Скочыла Кацярына з лаўкі да лаўкі,
Нахілілася мамачцы нізка ў ножкі,
Коскамі зямлю пакрыла,
Слёзкамі ножкі памыла.
Карыся, Кацярына, старому,
Кланяйся і маладому,
Із-за паклонаў галоўка не баліць,
Стары і малы благаславіць.”

Як бач нявесту прыбралі,
Да двара так паскакалі
Яснай пані чалом біці,
На вяселле запрасіці.
А пані – не пані, маці!
Маўляў роднаму дзіцяці,
Прыгожы пасаг дала,
Радасную слёзку ўраніла,
Маладых благаславіла
Сама да вянцу павяла.

Ксёндз маладых спаткае
На ўсё жыццё іх злучае;
А як скончыўся абрад,
Скрыпіцемі ўздзелі
Дружкі весела запелі,
Дый вярнуліся назад.

Пані на кут запрасілі,
Пры ёй ксяндза пасадзілі,
Сват падаркам пачаў чэсць;
Піва, мёд ракой ліліся,
Каўбасы з салам знайшліся,
Удоваль было піць і есьці.

Дзеўкі, хлопцы, маладзіцы
Цэлу ночку па святліцы
Бадзяліся, хто як змог.
Як ў гаршку там кіпела,
Ад пылу аж пацямнела,
Суматоха – што крый Бог!

Я на тым вяселлі быў,
Піва, мёд, гарэлку піў,
У роце здоваль было.
Аж па барадзе цякло.

# III.

Мы разгледзелі змест аповесьці Дуніна-Марцінкевіча “Гапон”. Як відаць, галоўная яе мэта  - паказаць што дабрачыннасць узнагароджваецца, а загана караецца. На самай справе, дабрачынныя герой і гераіня аповесьці шмат перанеслі гора ад падступнага Эканома; але, пасьля доўгіх выпрабаванняў, іх мары збываюцца і яны поўнасьцю ўзнагароджаны наступіўшым шчасьцем; у той жа час, Эканом, капаўшы яму для іншых, сам трапляе ў яе. Такім чынам “Гапона” трэба аднесьці да шэрагу павучальных аповесьцей, што з’яўляецца адметнай прыкметай тагачаснай мясцовай беларускай літаратуры. Марцінкевіч ішоў у ногу са сваім часам. Аднак дыдактызм яго аповесьці мае на ўвазе і больш глыбокую мэту, чым адно простае павучанне: жаданне прынесьці магчымую карысць як “панам”, так і “хлопам”, але аўтар мае на ўвазе яшчэ і іншую мэту. Так, акрамя вышэйзгаданай мэты, у аповесьці праводзіцца яшчэ і іншая думка: аўтар хоча даказаць, што паноў часта ўводзяць у зман свае ж амаральныя слугі, прадстаўніком якіх тут з’яўляецца Эканом; але самі паны дабрачынныя і таму, даведаўшысь аб падступстве, стараюцца ўзнагародзіць, па магчымасьці, пацярпелых.

Такі накірунак агульны для большасьці тагачасных мясцовых пісьменнікаў, якія бачылі ў літаратуры сродак для правядзення маральных ідэй, сродак для павучэнняў.

Так разумеў сваю задачу і аўтар разбіраемай аповесьці. У сваёй прадмове ён кажа: “Пішучы яе (аповесць), я маю мэтай, каб нашы паны, пры падборы ў дапамогу сабе афыцыялістаў, свярталі ўвагу на іх характар і норавы; бо яны ня рэдка злоўжываюць даручанай ім уладай, губяць працоўны люд па сваіх мяркаваннях і праз гэта вельмі часта ўзбуджаюць нянавісць апошніх да паноў, без іх віны.” Жадаючы павучыць паноў, ён і рашаецца “выпусьціць у свет сваю аповесць, узяўшы змест із праўдзівага выпадку”, каб, такім чынам, яго павучэнне магло быць мацнейшым.

Характар адносін паміж панамі і хлопамі разумееца аўтарам вельмі наіўна; але ў гэтых яго славах нельга не заўважыць і іншую мэту, якую мелі на ўвазе і іншыя сучасныя яму мясцовыя пісьменнікі (напрыклад Ян Чачот[9]), хоць і разумелі яе вельмі цьмяна і неакрэслена. Гледзячы ў той час на літаратуру, як на

9) Так, напрыклад, Ян Чачот гаворыць у прадмове да аднаго са сваіх твораў: “Можа быць, яны (вершы на беларускай мове) нейкім чынам трапяць у вёску? Можа быць яны скажуць сэрцу больш добразычлівых паноў і звернуць больш любячую увагу на сялян, а разам з тым будуць садзейнічаць поспеху гэтых працавітых суайчыннікаў у маральнасьці”. (А Пыпін “Беларускія песьні” В. Евр. 1887 г. травень р. 217.)

сродак правядзення розных ідэй, яны і звярталіся да яе для сваёй пропаведзі, пісалі аповесьці, апавяданні, вершы, маляваўшыя ў ружовых фарбах адносіны “добрых паноў” да “да мілых, добрых хлопаў”. Тагачасныя пісьменнікі (пераважна мясцовыя беларускія і літоўскія ўраджэнцы, якім гэтыя пытанні былі бліжэй), павучаючы паноў, не разумелі прычын, вынікам якіх было раздзяленне польскіх і беларускіх інтарэсаў. Адрозненне беларусаў ад палякаў яны бачылі толькі ў “схізме” – праваслаўнай рэлігіі, але і яно для большасьці знішчалась памяццю аб нядаўняй ўніі значнай часткі насельніцтва. На беларусаў яны глядзелі, як на тых жа палякаў, толькі размаўляючых мовай, якая ўяўляе сабой помесь польскіх і вялікарускіх слоў; у астатнім яны не бачылі розніцы паміж палякам і беларусам, называючы беларускіх сялян “нашымі”.

Між іншым, такі погляд на беларусаў, як на разнавіднасць палякаў і на Беларусь, як на частку Польшчы, карэнным чынам адрознівалось ад таго, што яны бачылі навокал. Тут яны бачылі безперапынную барацьбу паміж польскім і беларускім элементам, недавяральныя адносіны адзін да другога. Прадстаўнікі абодвух плямён, жывучы сумесна на адной тэрыторыі, мелі ў той жа час розныя мэты сваіх намаганняў. Палякі і апалячанныя беларусы цягнулі да Польшчы і каталіцтва, беларусы - да праваслаўя. Польскія пісьменнікі таго часу, бачучы агульнасць славянскага паходжання таго і другога племені, не разумелі, што пры гэтым агульным славянскім паходжанні паміж абоімі плямёнамі ляжыць глыбокае адрозненне ў іх культуры, гістарычных пачатках развіцця і мове, якая не з’яўляецца помессю польскай і вялікарускай, а, як паказалі дасьледванні навукоўцаў, з’яўляецца самастойнай галінкай славянскіх моў.

Беларусы і палякі выхоўвалісь на розных нацыянальных асновах, паспелі выпрацаваць, кожнае племя адрозна, задаткі самастойнай культуры, калі ім прыйшлося аб’яднацца ў адну дзяржаву (пасьля Люблінскай Уніі). Пісьменнікі пазначанага напрамку, ведаючы аб дзяржаўным аб’яднанні Польшчы, Літвы і Беларусі да 1793 года, пасьля знішчэння палітычнага існавання Польскага дзяржаўнага цела, імкнуліся знайсьці спосаб культурнага зліцця плямён, пры тым на глебе польскіх нацыянальных пачаткаў.

Пісьменнікі пазначанага напрамку бачылі толькі знешняе палітычнае аб’яднанне Беларусі з Польшчай, лічачы яго (а шмат хто і зараз лічаць) “братэрскім саюзам” двух народаў; абодва народы ім здаваліся блізкімі па паходжанні, значыць маглі зліцца, але пры гэтым саюз уяўляўся выключна з польскага боку гледжання. Яны забыліся, што прорва, ляжачая паміж дзвумя народамі, была заснавана як раз у час іх палітычнай уніі, калі, менавіта, і абвастрылісь іхныя абаюдныя адносіны, так як гэты час, быў часам барацьбы двух культурных пачаткаў.

Наогул, узаемныя адносіны абоіх народнасьцей магла б высветліць толькі навука, але польская навука (у агульным) таго часу не была вышэй чыста польскіх арыстакратычных тэндэнцый, а руская толькі нараджалась[10].

Да ліку пісьменнікаў пазначанага напрамку ўсяцэла належыць і аўтар "Гапона". Бачучы ў аповесьці сродак павучэння, Дунін-Марцінкевіч заходзіць вельмі далёка, прыдаючы вялікае выхавальнае значэнне сваёй працы. Акрамя пазначанага, ён яшчэ лічыць, што яго аповесць можа служыць для чытачоў-сялян пераканаўчым прыкладам таго, што "цвярозы, бездакорны норавам (obyczajòw nieposzlakowanych), і прытым сьмелы, даравіты і выканаўчы ў службе селянін (chlopek)" заўсёды атрымае ўзнагароду ад кіраўніцтва (ojcowskiego Rządu); пагэтаму, прачытаўшы яго аповесць, шмат хто з сялян з ахвотай пойдуць служыць, у той час як у сапраўднасьці яны служаць вельмі неахвотна. Здаецца, не гледзячы на вельмі добрыя намеры аўтара, няма чаго і даказваць, што яго праца не адпавядае яго высокім мэтам.

Мы спыніліся больш падрабязна на прадмове аўтара, якая выражае яго погляд на сваё прызначэнне таму, што гэты погляд не належыць выключна яму, але харатэрны амаль для ўсіх мясцовых пісьменнікаў таго часу[11].

Для мэт, якія меў на ўвазе аўтар пры выданні сваёй повесьці, яна не магла мець асаблівага значэння, але затое яго працы маюць яшчэ і цяпер вялікае значэнне, якога, можа быць, і не мог западозрыць іх стваральнік; гэта значэнне заключаецца ў пабытовых апісаннях аповесьці і мове. Мова ўсюды прадстаўляе чыста Менскую гаворку, перададуную дастаткова дасканала. Аўтар вельмі добра ведае пабытовыя ўмовы сялян і апісанні гэтых умоў складае лепшыя месцы аповесьці, як, напрыклад, апісанне гуляння ў карчме, вяселле і інш.

Ва ўсіх гэтых месцах з дзіўнай дакладнасьцю і праніклівасьцю схвачаны пабытовыя абставіны жыцця беларуса, нарэшце, аўтар стараецца, па магчымасьці, адлюстраваць склад разумовай дзейнасьці беларуса: у яго параўнаннях, напрыклад у трэццяй песьні, у апісанні руху ў горадзе, паседжання прысутнасьці, выражаецца багацце своеасаблівага беларускага гумару і тонкай назіральнасьці; ён правільна малюе тыпічныя асаблівасьці характару беларуса. Яго твор мае вялікае значэнне па той любові, па таму цёпламу пачуццю да лёсу селяніна, да яго гора і радасьці, якія змясьціў у сваім творы аўтар.

На прыканцы нашага кароткага агляду пакажам на той факт, што не гледзячы на амаль 40 год, прайшоўшых з часу першага выдання "Гапона", гэтая аповесць і зараз жыве ў памяці беларускага селяніна: нам давялося чуць урыўкі з гэтага твора ў розных кутках Менскай губерніі. Шмат хто із сялян, асабліва старэйшага узросту, ведаюць прозвішча аўтара, а часам, нават, змест аповесьці, але большасць лічыць яго твор проста народным. Найбольш вядомае месца, якое часьцей за ўсё даводзілася чуць – гэта першая палова першай песьні – гулянне ў карчме.

---

10) Аб гэтых адносінах гл. больш падрабязна ў нашых артыкулах: "Доктар Францыск Скарына" ("Менскі лісток" за 1888 г. №№42, 44) і "Беларускае мінулае" ("Менскі лісток" №№ 53, 57, 58, 62, 64, 82, і 86 за 1888 г.)

11) Гл. артыкулы А Пыпіна "Беларуская этнаграфія" у "В. Евр." 1887